І. П. ФУРМАН

# ВІЦЕБСКІЯ МАСТАКІ ГРАВЕРЫ




Революции сметают царей, но книга была и будет вечным властителем человечества
Графика
Право
Из книг С. А. Сильванского

№601.

Многоуважаемому

Сергею Александровичу

Сильванскому

15. IX. 1928

гор. Ижевск

Ив. [illegible]

І. П. ФУРМАН

# ВІЦЕБСКІЯ МАСТАКІ ГРАВЕРЫ






ВЫДАНЬНЕ
ВІЦЕБСКАГА АКР. ТАВАРЫСТВА КРАЯЗНАЎСТВА.
ВІЦЕБСК, 1928 г.

ГРАВЮРА на дрэве, ці ксілёграфія, хоць і ўзьнікла раней друкаваньня кніг, але цесна зьвязана з ім. Ніякі іншы спосаб аздобы кнігі так ня зьвязваецца са старонкай і тэкстам яе, як драўляная гравюра. Маючы выгнутую, рэльефную паверхню для друкаваньня, драўляная гравюра можа друкавацца разам з тэкстам кнігі, робячы, такім чынам, выключную суцэльнасьць старонкі. Між тым, як іншыя віды аздобы кнігі, як: гравюра на мэтале і літографія, маючыя углыбленьні ці гладкую паверхню для друкаваньня,—у кніжцы павінны друкавацца асобна ад тэксту, ня зьліваючыся з апошнім.

Драўляная гравюра, знаходзячы сваё найбольшае прыстасаваньне ў вытворчасьці і афармленьні кнігі, мае лёс, аднолькавы і роўналеглы з лёсам друкаваньня яе: найбольшы росквіт драўлянай гравюры выпадае на лепшыя часы мастацтва ў друкаваньні кніг (XV і XVI ст.).

Успомнім хоць-бы выданьні беларускага вучонага і друкара XVI ст. Францішку Скарыну, выданьні якога да гэтага часу застаюцца лепшымі ўзорамі друкаванага мастацтва, дзе выключна гармонічна зьвязваюцца з друкаваным шрыфтом надзвычайна добра выкананыя драўляныя гравюры.

Заняпад ксілёграфіі пачынаецца з XVII ст., калі яе паступова выціскае гравюра на мэтале, а арыстократычны XVIII век канчаткова ганьбуе драўлянай гравюрай і захапляецца амаль поўнасьцю гравюрай на медзі.

У першай палове XIX ст. драўляная гравюра пачынае адраджацца. Але, не пасьпеўшы расквісьці, к канцу сталецьця выраджаецца, імкнучыся служыць задачам рэпродукцыі неўласьцівых яе духу і характару маляўнічых карцін. Здабытыя ў XIX ст. мэханічныя спосабы аднаўленьня малюнкаў, канчаткова выціскаюць драўляную гравюру з кнігі. Само-ж мастацтва друкаваньня кніг у канцы XIX ст., асабліва ў Расіі,—адбітак заняпаду.

Пачатак XX ст. у Расіі вызначаўся росквітам графікі, і таму ізноў зьвяртаецца ўвага на мастацтва друкаваньня кнігі. Гэта вялікая культурная заслуга належыць групе мастакоў „Мир Искусства“. Культ кнігі, пачаты „мирискусственниками“, у рэволюцыйныя гады ў СССР атрымаў сваё лёгічнае завяршэньне ў аздобе кнігі драўлянай гравюрай. Ксілёграфія ў рэволюцыйны пэрыяд заняла ня толькі адпаведнае ёй месца ў адносінах аздобы кнігі, але і атрымала важнейшае месца і найбольш пярэд-

нія позыцыі ў галіне вобразных мастацтваў. Найбольшы росквіт драўляная гравюра атрымала ў Маскве, дзе ў гэтай галіне зьявіліся такія выключныя таленты, як—В. А. Фаворскі і Н. Краўчэнка. На „Міжнароднай выстаўцы дэкарацыйнага мастацтва“ у Парыжы, у 1925 г., расійская гравюра карысталася вялікім посьпехам, а работы Фаворскага і Краўчэнка атрымалі вышэйшыя ўзнагароды. У Заходняй Эўропе, асабліва ў Францыі і Нямеччыне, за апошнія гады зацікаўленасьць драўлянай гравюрай вырасла, і там зьявіліся свае выдатныя мастакі ксілёграфы.

Не адстала ў галіне ксілёграфіі і Беларусь, дзе ў г. Віцебску зьявіліся першыя сучасныя нам беларускія мастакі граверы. Віцебск зьяўляецца бацькаўшчынай ня толькі выдатных маляроў, але і даў вядомых сваімі работамі графікаў і гравераў. Дзякуючы работам Юдовіна, Мініна і Гарбаўца, Віцебск у галіне ксілёграфіі заняў ня толькі першае месца ў Беларусі, але займае віднае палажэньне і ў СССР.




С. Б. Юдовін. 1928 г. Дэманстрацыя.
(Гравюра на дрэве).



БЕЛАРУСКАЯ ксілёграфія сучаснага нам моманту пачынаецца работамі віцебскага мастака С. Б. ЮДОВІНА, які пачаў працаваць у галіне гравюры ў Віцебску, у 1920 г., спачатку на лінолеуме, а потым на дрэве. Зьмест для сваіх гравюр Юдовін браў з ваколічнага жыцьця гораду Віцебску—гораду дробных рамесьнікаў і гандляроў. Найбольш моцным бокам гравюр Юдовіна зьяўляецца іх зьмест, яскрава перадаючы тыпы і быт яўрэйскай беднаты. Форма гравюр Юдовіна, абгрунтованая на яўрэйскім народным мастацтве, цесна сплялася з яго зьместам у адно органічнае цэлае, і творчасьць Юдовіна трэба лічыць глыбока нацыянальнай яўрэйскай.

У першыя часы ў тэхніцы гравіраваньня Юдовін культываваў пераважна „белы штрых“, але ў апошніх работах тэхнічны бок яго гравюр значна ўдасканальваўся

ўвядзеньнем „чорнага штрыха“ і рабіўся больш рознастайным сьмелай комбінацыяй чорных і белых плям гравюры.

У сваім цыкле гравюр „Віцебск“ Юдовін даволі поўна адбіў ня толькі тыпы і бытавы бок жыцьця Віцебску, але і перадаў найбольш цікавыя архітэктурныя помнікі гораду. Пражываньне летам 1926 г. у мястэчку Гарадку (Віцебскай акругі) дало матар'ял для стварэньня новага цыклю гравюр з местачковага жыцьця Беларусі.

Зьмешчаная гравюра „Пахаваньне“—поўна настрою і выразна перадае сілуэтамі местачковыя тыпы. Агульная композыцыя гравюры вызначаецца вялікай сьмеласьцю ўвядзеньнем значных чорных і белых плям.

За апошнія гады Юдовін сваімі гравюрамі прымаў удзел у наступных выстаўках: 1) „Усебеларуская мастацкая выстаўка ў Менску, у 1925 г.; 2) „Выстаўка гравюр Юдовіна“, наладжаная ў 1926 г. Віцебскім акр. краязнаўчым таварыствам; 3) „Расійская ксілёграфія за 10 год“ у Ленінградзе, у 1927 г.; 4) „Графічнае мастацтва ў СССР за 10 год“ у Ленінградзе, у 1927 г.; 5) „Гравюра СССР за 10 год“ у Маскве, у 1927 г.; 6) „Усебеларуская мастацкая выстаўка“ у Менску, у 1927 г.; 7) „Мастацтва нацыяльнасьцяй СССР“ у Маскве, у 1927 г.; 8) „Міжнародная дэкорацыйная выстаўка ў Мілане“, у 1927 г. (работы прызнаны годнасьці дыплёму) і 9) „Міжнародная выстаўка кніжнага знаку ў Лос-Анжэласе (Амэрыка), у 1928 г.

Гравюры Юдовіна былі зьмешчаны ў наступных вы-



С. Б. Юдовін.

Пахаваньне.
(Гравюра на дрэве).

ваньнях: 1) „Еврейский народный орнамент“, Віцебск, 1920 г.; 2) „Гравюра и книга“ № 2—3, Масква, 1924 г.; 3) „Труды Ленинградского Общества Экслибрисистов“ № 2—3, Ленінград, 1925 г.; 4) „Печать и революция“ № 1, Масква, 1926 г.; 5) І. П. Фурман—„Віцебск у гравюрах Юдовіна“, Віцебск, 1926 г.; 6) Всеволод Воинов—„Русская ксилография за 10 лет“, Ленінград, 1927 г.; 7) „Красная Нива“ № 16, Масква, 1927 г. і 8) Э. Ф. Голлербах и Иоффе — „Гравюры на дереве С. Б. Юдовина“, Ленінград, 1928 г. Акрамя гэтага, творчасьць Юдовіна выклікала цэлы шэраг артыкулаў у беларускай, расійскай, яўрэйскай і літоўскай прэсе.



Е. С. Мінін. 1927 г. Касьцёл Антона.
(Гравюра на дрэве).

Другі віцебскі мастак Е. С. Мінін стаў займацца ксілёграфіяй з 1926 г. і зразу ў гэтай галіне выявіў вялікую тэхнічную дасканаласьць, культывуючы пераважна „чорны штрых“. Работы Мініна заўсёды прыгожыя і гавораць аб вялікім мастацкім гусьце іх майстра. Тэмамі сваіх гравюр Мінін выбраў, галоўным чынам, архітэктурныя помнікі гораду Віцебску, і таму ў краязнаўчых адносінах яго работы вельмі каштоўныя, выяўляючы мастацкія прыгожасьці гораду.

Мінін першы зрабіў спробу стварыць нацыянальны беларускі ex-libris. Такія яго грававаныя кніжныя знакі для беларускіх культурных дзеячоў: А. Шлюбскага, М. Касьпяровіча і М. Мялешкі.

Зьмешчаная гравюра „Від Віцебску з ракі Віцьбы“ зьяўляецца вельмі тыповай для работ Мініна, як у адносінах тэмы, так і яе гравернага афармленьня. Прыгожа

ў агульную композыцыю ўключана дрэва, разам з тым аб'ядняючае ўсю складаную композыцыю ў адзін цэлы малюнак. Месца назіраньня выбрана ўдзячнае, калі вежы цэнтральнай часткі Віцебску, згрупаваўшыся ў адно месца, ствараюць надзвычайна прыгожы архітэктурны пэйзаж.

У 1927 г. Мінін сваімі гравюрамі прымаў удзел у наступных выстаўках: 1) „Расійская ксілёграфія за 10 год“ у Ленінградзе; 2) „Гравюра СССР за 10 год“ у Маскве; 3) „Мастацтва нацыянальнасьцяй СССР“ у Маскве; 4) „Усебеларуская мастацкая выстаўка“ у Менску; 5) „Віцебская акруговая выстаўка культурнага і гаспадарчага будаўніцтва“ у Віцебску; 6) „Міжнародная выстаўка кніжнага знаку“ у Лос-Анжэласе (Амэрыка), у 1928 г. і 7) „Выстаўка гравюры і рысунку, наладжаная Асоцыацыяй рэволюцыйнага мастацтва Ўкраіны, у Кіеве, у 1928 г.

Гравюры Мініна былі зьмешчаны ў часопісі „Наш Край“ № 12 (15) за 1926 г., а весткі аб яго творчасьці былі надрукаваны ў выданьнях: 1) часопіс „Маладняк“ № 6 за 1927 г., 2) М. І. Касьпяровіч—„Матар'ялы да вывучэньня Віцебскай краёвай літаратуры і мастацтва“, Менск, 1927 г. і 3) Всеволод Воинов — „Русская ксилография за 10 лет“, Ленінград, 1927.




Е. С. Мінін. 1927 г. З цыклю „Стары Віцебск“.

(Гравюра на дрэве).



З. І. Гарбавец. 1927 г.

„Пэйзаж Віцебску".
(Гравюра на дрэве).

Трэці віцебскі мастак З. І. ГАРБАВЕЦ гравюрай стаў займацца яшчэ ў 1924 г., але ў друку і на выстаўках зьявіўся толькі ў 1927 годзе, зьвярнуўшы зразу на сябе сур'ёзную ўвагу формальным бокам сваіх гравюр. Пачаўшы з лінолеуму, Гарбавец потым перайшоў на ўздоўжнае дрэва, г. зн. на той спосаб гравіраваньня, якім карысталася старая эўропэйская гравюра часоў свайго росквіту. У сваіх гравюрах Гарбавец імкнецца перадаць ігру белага з чорным (белое поле паперы і чорнае месца гравюры), ствараючы пры дапамозе гэтых двох абмежаваных графічных сродкаў уражаньне тональнасьці. У композыцыйный адносінах гравюры Гарбаўца дасканалы сваёй архітэктонікай, як вынік сур'ёзнага абдумваньня ў пабудове і разьмяшчэньні частак гравюры.

У гравюрах Гарбаўца асабліва вылучаюцца портрэты, якія перадаюць востра індывідуальныя рысы асоб; як

дэталь, у портрэтах прывабліваe ўвагу тонкая перадача выразу вачэй. Зьмест сваіх гравюр Гарбавец бярэ з ваколічнага жыцьця г. Віцебску.

Зьмешчаная гравюра „Віцебск з боку рэчкі Віцьбы" —тыповая па формальнаму разьвязаньню і выкананьню для работ Гарбаўца. Каб у рэальным знайсьці гравернае, для гравюры знарок выбрана кверху мясцовасьць, якая падымаецца з адваротнай пэрспэктывай яе архітэктуры; такая пэрспэктыва ўтрымлівае ўсю гравюру на плошчы, не дае ёй існьці ўглыбіню. Гравер у данай рабоце імкнуўся выявіць колер гравюры (тры тоны: чорны, шэры і белы) і перадаць падаючае з верхняга левага кутка асьвятленьне. Гравюра багата гравернымі сродкамі: драўляныя і каменныя будынкі перададзены рознымі лініямі, выяўляючымі матар'ял. Каб падкрэсьліць бялізну тынкаваньня каменных дамоў, апошнія дадзены ў асьвятленьні, а шараватасьць драўляных будыкаў падкрэсьлена малым асьвятленьнем. Неперарыўны шэры тон неба лішні раз выдзяляе белыя тынкаваныя будынкі.

Для ўтрыманьня ўсёй гравюры на плошчы справа паказана частка вежы ратушы, якая перададзена шэрым тонам і больш дэтальна распрацована, каб ураўнаважыць левую чорную частку гравюры.

У 1927 годзе Гарбавец прымаў удзел у наступных выстаўках: 1) „Гравюра СССР за 10 год" у Маскве; 2) „Расійская ксілёграфія за 10 год" у Ленінградзе і 3) „Усеукраінская мастацкая выстаўка ў Харкаве".

Гравюры Гарбаўца былі зьмешчаны ў наступных выданьнях: 1) З. И. Горбовец — „Гравюры на деревне“, Віцебск, 1927 г. і 2) у газэце „Зьвязда“ ад 25 верасьня 1927 г. № 219 (2739), Менск.

* * *

Ксілёгравюры разгледжаных трох мастакоў маюць вялікае значэньне ў жыцьці мастацтва нашага краю. Да гэтых гравюр будуць зьвяртацца ня толькі знаўцы мастацтва, а ўсялякі, хто вывучае мясцовы край і, асабліва, той, хто вывучае архітэктуру і быт краю, бо ў гравюрах памянёных мастакоў даволі поўна выяўлен надворны від гораду Віцебску і яго ўнутраное жыцьцё.

Калі нам, пасьля гістарычных прац профэсара А. П. Сапунова, даволі падрабязна вядома палітычная гісторыя гораду Віцебску, дык зусім нявыяўленым і неапісаным застаецца надворны від гораду, не паказаны мастацкия прыгожасьці гораду ні ў відзе цэлых пэйзажаў, ні асобных архітэктурных помнікаў. Гэта справа чакае свайго дасьледчыка, а пачатак яму пакладзены гравюрамі разгледжаных намі мастакоў.

Ў справе аховы помнікаў мастацтва і старасьветчыны мясцовага краю памянёныя мастакі зрабілі каштоўныя работы зарысоўкамі гэтых помнікаў. Так, адзіны ўспамін аб згарэлай у 1926 г. драўлянай вуніяцкай царкве (узор драўлянай архітэктуры XVIII ст.) у сяле Храпавічах, Віцебскай акругі, застаецца толькі па выпадковай гравюры

Юдовіна, зробленай ім у 1921 годзе. Таксама ўспамін аб надворным відзе другога помніку драўлянай архітэктуры XVIII ст. гораду Віцебску, цяпер разбуранай царкве „Чорнай Тройцы“ на Пескавацiку, застаецца па малюнках і гравюрах мастакоў—Юдовіна і Мініна.

* * *

Акрамя памянёных трох мастакоў, гравюрай у апошні час пачалі займацца віцебскія мастакі—Лейтман і Гаўрыс. Іх работы яшчэ знаходзяцца ў пэрыядзе экспэрымэнту і на суд грамадзкасьці не зьяўляліся, але першапачатковыя спробы абяцаюць у будучыне ўзбагаціць гравернае мастацтва, што разьвіваецца ў Віцебску, новымі цікавымі работамі.



Зьмешчаныя ў гэтым выданьні гравюры друкаваны з арыгінальных дошак.

---

Гэта выданьне надрукована пад наглядам мастака Е. С. Мініна.